8) Кожным аддзелам, як сярэдняй і вышэйшай школы, так і пачатковай, кірус выбранае на тое з ліку сябрукоў аддзелу Бюро з 3-х чалавек: старшыні, скарбніка і пісара.

9) Як Камітэт хаўрусу, так і ўсе іншыя яго выбранныя органы, у сваёй працы кіруюцца пастановамі агульных сходаў хаўрусу, а аддзелы, апрач таго, яшчэ дырэктывамі Камітэту.

Статут апрацованы, ухвалены і надпісаны закладчыкамі:

Яз. Лёсік, М. Мороз, П. Бодунова, А. Русак, М. Гапчарык, А. Данілевіч, В. Левіцкая і інш.



# Апошнія навіны.

## Агульныя весткі.

### Пастанова Часовага Ураду аб зьездах і сходах.

На час вайны міністрам ваеннаму і ўнутраных спраў даецца права не дапушчаць і зачыняць ўсе сходы і зьезды, якія маюць у сабе небезпеку у ваенным кірунку дзяржаўнага забязпячэньня. Пастанова гэтая выканоўваецца да распублікаваньня яе Сэнатам.

Старшыня міністр Керэнскі.

Міністр юстыцыі Зарудны.

### Падаходны падатак на Раманова.

Часовы Урад пастанавіў аблажыць падаходным падаткам бышага цара і яго сямью.

### Нацыянальнае пытаньне на 9-м зьезді партыі „Народнай Волі“.

На вячэрнім сходзі 24 ліпня зьезд выслухаў даклад барона Б. Э. Нольдэ аб нацыянальным пытаньні.

Дакладчык лічыць, што нацыянальнае пытаньне ў Расіі можа быць развязано праз абарону нацыяў як групаў асабістых, а не тэрыторыяльных. Найвярней можна дапусьціць ужо нацыі да спраў агульна-дзяржаўных праз прапарцыянальныя выбары. За нацыялі трэба прызнаць права рабіць нацыянальныя хаўрусы дзеля выканаўня спраў культурнаго будоўніцтва. Гэтыя хаўрусы павінны мець публічна-прававы характэр.

Пасьля некалькіх увагаў і папраўак, зробленных рознымі прамоўцамі, зьезд прыняў дзьве такія рэзалюцыі, якія й пастаноўлено ўвесьці ў праграму партыі.

Першая рэзалюцыя: «Дзяржава можа перадаць нацыям выканаўне наказываемых законам заданьняў культурнаго управленьня ў адносінах да тых асобаў, якія вызнаюць сваю прыналежнасьць да гэтых нацыяў: Арганізаваньне нацыянальных хаўрусаў, круг іх ведома і ўласьці, вялічыня адмогаў ім ад дзяржаўнай казны так само і адносіны паміж імі устанаўляюцца у парадку агульна-дзяржаўнаго законадаўства».

Другая рэзалюцыя: «Мова расійская, як мова агульна-дзяржаўная, павінна быць урадавай моваю цэнтральных дзяржаўных установ, арміі і флоту. У мяйсцовых дзяржаўных і грамадзянскіх арганізацыях і навуковых закладах, утрымліваемых коштам казны або органаў мяйсцоваго самакіраваньня, — павінно быць устаноўлена права ужываньня мяйсцовых моваў згодна з нацыянальным складам насяленьня і забезпячэньнем, у парадку агульна-дзяржаўнаго законадаўства, правоў расійскай мовы не толькі як агульна-дзяржаўнай, але як і міжнацыянальнай. Насяленьню кожнай мяйсцовасьці павінно быць забязпечано права на атрыманьне пачатковай асьветы, а калі магчыма,—дык і далейшай у роднай мові.»

## З украіны.

### Прэдстаўнік ад беларусаў ў Укр. Цэнтр. Радзі.

28-го ліпня Камітэт Ц. У. Р. разглядаў даклад Камісіі па справі дапаўненьня Ц. Р. прэдстаўнікамі нацыянальных меньшасьцяў і прыняў рэзалюцыю аб папаўненьні Ц. Р. 202-ма прэдстаўнікамі неукраінскіх нацый. У ліку гэтых 202-х новых членаў Рады будзе 1 беларус.

### Ад Камісіі ў справі скліканьня зьезду народаў.

Зьезд прэдстаўнікаў народаў і краёў, што дамагаюцца аўтаномна—фэдэратыўнаго перабудаваньня Расіі, які склікаецца ў Кіеві Цэнтральнай Украінскай Радай, назначаны на 15-го жніўня.

На зьезд запрашаецца аднакавы лік (не больш дзесяці) прэдстаўнікаў ад усіх народаў і краін незалежна ад велічыні тэрыторыі, ліку насяленьня і яго культурна-нацыянальнаго разьвіцьця.

Народы, краі і партыі, што хочуць мець сваіх прэдстаўнікаў на зьездзі, павінны зьвярнуцца проста да Украінскае Цэнтральнае Рады.

## З заграніцы.

**Будучына Англіі.** Уэльс, вядомы ангельскі пісьменнік, напісаў артыкул пра будучыну Англіі. Артыкул гэты ангельская публіка стрэла натта прыхільна. Артыкул Уэльса канчаецца гэтак: «Ці мала ангельцаў відаць, захопляны ідэею стварыць вялікую, на ўвесь сьвет, ангельскую імпэрыю,-сыстэму, звязаную вісокімі мытнымі [таможен] стаўкамі ў адно цэлае, якая-б стаяла проці усяго сьвета. Гэта—шлях сьмерці. Калі мы, адкінуўшу гэную ідэю пра імпэрыю, будзем іці да хаўрусу народаў, то у 1930 року мы разам з нашымі амэрыканскімі сваякамі і з латынскім і расійскім народам пачнём новую эру жыцця. А калі вернямся да старых імпэралістычных мараў, дык брытанская імпэрыя да 1930 року, цяжка узброенная, пад цяжэрнай рукою, свайго ураду, пад цяжкім цяжарам падаткаў, будзе граці гэткую самую ролю, якую грае цяпер гэрманскі мілітарыстычны (ваенны) імпэрыялізм. Імпэрыялізм або інтэрнацыяналізм—гэтакі выбар для Англіі.»

[«Н. Рада»]

### Палітычны курс у Гэрманіі.

Падзеі на расійскім фронці дужа адбіліся на агульным самапачуцці у Бэрліні. Што датыча заходняго фронту, то частка гэрманскай прэсы уважае, нібы Англія сваім новым наступам у Фландрыі паказала, што ёй ні перамагчы Гэрманіі нішчэннiям яе падводных чаяк на моры, і праз тое Англія робіць апошняе напружэньня, каб захапіць базы падводных чоўнаў на берэзі Бэльгіі. Канцлер Міхаэліс ужо загаварыў пра тое, што трэба моцная улада і што трэба ужыць больш энэргіі і адвагі. Міхаэліс казаў аднаму журналісту, што папярэдні канцлэр быў слабкае удачы і абвясьціў, што Гэрманія, як і раней будзе йці да міру, але ня выявіць таго, што яна змаглася.

[«Н. Р.»]

### Самапачуцьце у Італіі.

У Італіі апошнімі часамі пачынаецца борка паміж прыхільнікамі вайны да перамогі (да канца) і тымі сацыялістамі, што хочуць скончуць бойню народаў. Сацыяліст Трэвэс скончыў сваю прамову у парламэнці гэтак: «з усіх фронтаў нясецца адна вымога: гэта зіма ніпавінна захапіць армію ў аконах!» Але газэты вельмі нападаюць на Трэвэса.

(«Нов. Рада»)



# Вайна.

На Паўночна-Заходнім, Заходнім і Каўказкім фронтах ціха.

На Паўднёва-Заходнім фронці праціўнік прабаваў наступаць на Бродзкім кірунку ў районі Дуб-Заркуў, але быў адбіты. На Збручы—артылярыйская стрэляніна.

На Румынскім фронці праціўнік наступае ў районі Окна-Грозесчы. Ні гледзючы на упартыя контр-атакі расійскай і румырскай арміі, яны змушаны былі адступаць. Пад вечар 30-го ліпня ім удалося затрымаць праціўніка і самым пачаць наступ. На Факшанскім кірунку расійская армія пад упартым націскам немцаў падаецца назад.



## Шчэбячы салавейка.

Шчэбячы ты, салавейка,  
У зялёным гаю,  
Калі родная сямейка  
Сірацея ў краю.  
Калі горка сьлёзы роніць,  
Матухна па сыну.  
Хай твой сьпеў тугу разгоніць,  
Хай нядоля згіне.  
Калі дзеткі просюць таты,  
Каб ішоў да дому,  
Дзе грымяць ўсё гарматы,  
Льгі німа нікому.  
Калі родная сястрыца  
Моліцца за братц..  
Ці ні годзі сьлёзам ліцца,—  
Хай настане сьвята.  
Шчэбячы ты, салавейка,  
Пей аб супакою,  
Як чульлівая жалейка  
Раніцай ціхою.  
Залівайся свістам-песьняй,  
Цеш матулю, жонку;  
Цеш сіротак, што балесьне  
Тужаць бяз прытулку.  
Шчэбячы ты на сьвітаньні,  
Як узыдзе слонца,  
Хай хутчэй спакой настане  
У родніькай старонцы.

А. З.

## „Долой бѣлоруссовъ“

### Цёмныя сілы беснуюцца.

За апошнія часы на імя рэдакцыі «Вольнае Беларусі» надыходзюць ананімныя лісты з розных камісарыятаў [б. паліцэйскіх участкаў і] з чыннай арміі. Дзеля прыкладу, мы надрукуем адзін з гэных лістоў. Ніхай людзі пачытаюць і навоч дасьведчацца, з якога кшталту людзьмі трэба рахавацца, калі чуеш заклік: «долой бѣлоруссовъ»!» Страшна робіцца за вольнасьць дзяржавы Расійскай, як прыгледзішся, што за хуліганьё хаваецца цяпер пад штандарам волі, рэспублікі і дэмакраты зму. Гэтыя цёмныя сілы цёмнай Расіі дэмаралізуюць цяпер армію, робюць пагромы, гвалтуюць, рабуюць і паводзюць жах навокала. Як гады, выпоўзаюць яны с цёмных куткоў, шыпяць, плююцца і лаюцца.

Вот аўтэнтык аднаго гэткага лісту, адтрыманаго намі з чыннай арміі, з захаваннем яго правапісу:

«Г. Редакторъ!

Или шпіонъ немѣцкій: скажи пажалуйста каго, ты дурыла хотишъ въ водить взаблужденіе своей белор.-культурой [ломанаго языка і кто на это пойдетъ за тобою дураком] смеху падобна ваша лавачка беротесь белоруссовъ ремантировать, по безъ матеріалу. Я беларусъ Мин. гб. Иг. уѣз. Плюю тебя въ твою идейную рожу, за то, что ты въ то время какъ народу нужно вливать побольше культуры, ты становишься на пути съ кучкой чернасотенцовъ и пытаешся препятствавать падъ видамъ національнаго языка.

Второй авторъ! Я беларусъ и скажу Вамъ што вы хотите своей газетой внести разложеніе въ народъ, это нужно тольки помѣщикамъ и капиталистамъ отдѣленіе бѣлорусіи, дабы воспользоваться темнотой народной въ земельныхъ реформахъ. Эта преждевременно ваше мечтаніе. Крестьянству и пролетярію этого ненужна и оні непайдутъ на вашу фискальную крикливость. У насъ далжна быть адна демократическая республика вотъ вамъ голасъ который подастъ представительство бѣлорускаго крестьянства. Ваша газета и произношеніе въ ней фразъ и вообще бѣлорусскій языкъ это недоразуменіе адно, эта отсталость одна отъ рускаго языка, которую современное поколѣніе исправитъ.

Въ заключеніе письма посылаю васъ ко всѣмъ чертямъ и при встрѣчѣ первый покалачу рожу.

К.

Радуйся, Мікола II, твае «ребята» стараюцца! Здаецца, пісаў гэты ліст ні чалавек, а гарыла, (малпа) каторы толькі і навучыўся крычаць па-маскоўску: «долой! сокрушу! долой!»

## АХВЯРЫ.

### На Беларускі Нацыянальны Фонд.

Ксён. Шолкевіч-50 р., Більдзюкевіч-3 рб., ад скарбоначн. збору у г. Мінску -1789 рб. 25½ кап., прыбытак ад спэктаклю 22 іюл,-565 рб. 05 кап., прыбытак ад гуляння у Мінску на трэку-551 рб. 85 к.

Разам: 2959 рб. 15½ к.

Агулам з раней паступіўшымі: 6799 рб. 61½ к.

### На фонд газэты «Вольная Беларусь»

Ксёнд. Шолкевіч-20 рб., Я. Станкевіч-20 рб., Рышкевіч-5 рб., Жданка-5 рб., падпар. Сьвечнікаў-4 рб., ад кіеўскага гуртка «Зорка» 245 рб. 31 к.

Разам; 299 рб. 31 к.

Агулам з раней паступіўшымі: 363 рб. 31 к.

Рэдактар Я. Лёсік.





Друкарня Н. М. Нахумова.

Выдавец «Т-ва Беларускай Культуры»

Выдавец «Т-ва Беларускай Культуры»

Друкарня Н. М. Нахумова